# наша свабода

№104(191) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

24 ВЕРАСНЯ 2001 года
ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




# Спринт с зеркалом

Вчера Лукашенко вступал на пост президента. Семь лет назад он уже проходил такую процедуру. Но тогда это был всего лишь недавний председатель колхоза, чьи руки дрожали от волнения и дух захватывало от внезапной удачи. Теперь это – уверенный глава государства, «выковавший победу» в прямом смысле слова своими руками. Вот только нет уже того ощущения эйфории от победы. Потому что президент Беларуси сам не знает, сколько именно человек за него проголосовало.

В этот раз церемония была необычной. Сразу после положения руки на Конституцию и бокала шампанского Лукашенко вышел на главную площадь, где принял клятву верности от армии и всех силовых структур республики. От взора наблюдателей не укрылся тот факт, что клятва приносилась не стране, а лично президенту. Другая особенность — в том, что самыми высокими гостями на церемонии стали не президенты иных стран, а нефтяные боссы России. В Минске ждали глав РАО «Газпром», «Лукойла», «Сургутнефтегаза», «Славнефти», «Итеры»... В политических кругах все больше уверенности в том, что Лукашенко удалось купить согласие Кремля соблюдать подчеркнутый нейтралитет в отношении себя и даже поддержку ценой крупнейших белорусских предприятий-экспортеров.

Между тем всплывают все новые факты, свидетельствующие о выборных подтасовках. Как призналась собкору «МК» одна из членов избирательной комиссии Советского района города Минска (имя не упомянем по понятным причинам), накануне дня голосования главы областных администраций собрали начальников местных избиркомов и приказали: наблюдатели пусть будут в зале, но к столам подсчета бюллетеней их не подпускать — им не следует видеть схему подсчета. А она была проста. Избиркомовцы раскладывали бюллетени в три стопочки — не глядя, за кого они. Им сказали: формируйте маленькую стопку за Гайдукевича, среднюю — за Гончарика и большую — за Лукашенко: «Смотрите, чтобы всегда стопка Лукашенко была на треть больше!». То есть в нее могли попасть и бюллетени за Гончарика, и бюллетени за Гайдукевича...

В интервью «МК» о «странностях» рассказал и один из российских наблюдателей, депутат Госдумы Вадим Бондарь. В день выборов он побывал на одиннадцати участках Гродненской области и стал свидетелем того, как местные власти просто выгоняют нежелательных наблюдателей с участков на основании какого-то письма от местного прокурора. Более того, группу наблюдателей, которые должны были вести параллельный подсчет голосов, Бондарь обнаружил в середине дня... в местном отделении КГБ. Ему самому удалось встать за спиной председателя одного из избиркомов во время подсчета. Потом выяснилось, что данные, которые считались при нем, существенно отличаются от "официальной картины". На минском участке №13 «за» Лукашенко (в момент, когда Бондарь следил за подсчетом) оказалось 542 бюллетеня, «за» Гончарика — 841. Но после того, как наблюдатель «покинул пост», расклад радикально изменился... Другая странность: по словам Бондаря, областной избирком, где он тоже побывал, еще не успел закончить подсчет голосов, а по радио глава ЦИК Ермошина уже рапортовала об окончательных итогах...

В трогательном фильме «Один день с президентом» Батька посетовал, что в детстве очень хотел стать спортсменом, да вот не довелось. Зря сетовал Лукашенко на судьбу. Он просто не мог стать спортсменом. Потому что не умеет честно сражаться и побеждать.

**«Московский комсомолец»**

# Няўдзячны лёс




У дзень інаўгурацыі прэзідэнта шмат аматараў гамбургераў засталіся галоднымі. Працяг тэмы на стар.2

## Выдаткі на АПК растуць

На развіццё аграпрамысловага комплексу Беларусі за 8 месяцаў 2001 года з шэрагу крыніцаў было выдаткавана 229 мільярдаў рублёў. Гэта на 12% больш, чымсці паступіла ў гэтую галіну за аналагічны перыяд мінулага года. Паводле дадзеных міністэрства сельскай гаспадаркі, удзельная вага інвестыцыяў у АПК у агульным аб'ёме інвестыцыяў у краіне склала 26%.

## Ганчарык дайшоў да Вярхоўнага суда

24 верасня нядаўні кандыдат у прэзідэнты ад апазіцыі Уладзімір Ганчарык мае намер накіраваць поўны варыянт скаргі аб парушэннях выбарчага заканадаўства падчас прэзідэнцкіх выбараў у Вярхоўны суд Беларусі. Суд мусіць прыняць рашэнне па гэтым пытаньні за дзесяцідзённы тэрмін.

## Нямецкі пасол развітаецца з Беларуссю

Пасол Германіі ў Беларусі Хорст Вінкельман, чый тэрмін паўнамоцтваў хутка завяршаецца, наведаў 21 верасня з афіцыйным развітальным візітам Глыбокае, што на Віцебшчыне. Ён пабываў і ўсклаў кветкі на некалькіх мемарыяльных месцах, прысвечаных ахвярам другой сусветнай вайны, а таксама на адкрытых летась нямецкіх вайсковых могілках.

## Запраўкі мадэрнізуюць

Аўтазаправачныя станцыі ў Беларусі будуць мадэрнізавацца. Па-першае, усе старыя АЗС будуць схаваныя пад дахі, падругое, на аўтазапраўках будуць устаноўленыя танкі для захавання нафтапрадуктаў з дзвюма сценкамі. Цяперашнае абсталяванне на АЗС краіны зношанае на 70%: ёмістасці, дзе захоўваецца паліва, працякаюць. У выніку забруджваецца навакольнае асяроддзе.

# Тальныя фальсіфікацыі

*21 верасня ў Мінску адбылася прэс-канферэнцыя грамадзянскай ініцыятывы «Незалежнае назіранне». Некалькі прамоўцаў ад розных паважаных арганізацыяў даводзілі, што вынікі прэзідэнцкіх выбараў нельга прызнаваць законнымі з-за маштабных фальсіфікацыяў.*

### Алесь Бяляцкі: «Улады тасавалі вынікі выбараў»

Маштабная фальсіфікацыя прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі выклікана тым, што Аляксандру Лукашэнку неабходна была падтрымка канстытуцыйнай большасці выбаршчыкаў. Такое меркаванне выказаў каардынатар грамадскай ініцыятывы «Незалежнае назіранне» Алесь Бяляцкі 21 верасня ў Мінску на прэс-канферэнцыі па выніках назірання.

Паводле словаў Бяляцкага, калі ў ГАЗах працэс фальсіфікацыі вынікаў выбараў ішоў «дастаткова асцярожна», то ў сельскай мясцовасці, куды практычна не былі дапушчаныя назіральнікі, улады «тасавалі вынікі выбараў так, як ім хацелася».

«Прарэхі ў выбарчым заканадаўстве і ў арганізацыі выбараў дазволілі ўладам правесці іх маштабную фальсіфікацыю ў межах усёй краіны», – заявіў каардынатар «Незалежнага назірання».

Сярод парушэнняў заканадаўства Алесь Бяляцкі, у прыватнасці, адзначыў адмову старшыняў выбарчых камісій прадастаўляць назіральнікам спісы выбаршчыкаў і ўтойванне вынікаў папярэдняга галасавання. Паводле яго словаў, неадпаведнасць вынікаў папярэдняга галасавання і галасавання ў асноўны дзень выбараў «сведчыць аб масавай фальсіфікацыі іх вынікаў». Напрыклад, паведаміў Бяляцкі, на выбарчым участку № 4 Першамайскага раёна Мінска ў адзін з дзён папярэдняга галасавання Уладзіміра Ганчарыка падтрымалі 4%, а 9 верасня – 48% выбаршчыкаў; за Аляксандра Лукашэнку прагаласавалі адпаведна 89,62% і 37,97% выбаршчыкаў.

У той жа час, сказаў Бяляцкі, як паказвае міжнародная практыка, суадносіны галасоў, пададзеных за таго ці іншага кандыдата падчас папярэдняга галасавання і ў асноўны дзень выбараў, прыкладна аднолькавыя.

Каардынатар «Незалежнага назірання» таксама адзначыў сотні фактаў маніпуляцый падчас падліку галасоў. «Працэдура скрытага падліку галасоў, калі члены камісіі не называлі лічбаў прагаласаваўшых за таго ці іншага кандыдата, а пісалі іх на паперках, гаворыць аб тым, што механізм падліку галасоў быў вызначаны «зверху», – лічыць Бяляцкі.

Ён выказаў надзею, што з часам факты фальсіфікацыі выбараў будуць пацверджаны членамі выбарчых камісій. Разам з тым, падкрэсліў Бяляцкі, улады вельмі хітра падтасавалі факты і сталі абвінавачваць незалежных назіральнікаў у фальсіфікацыях і перашкодзе выбарам. Так, напрыклад, працягваецца судовы пераслед каардынатараў «Незалежнага назірання» па Савецкаму раёну Мінска Алеся Галіча і па Шклоўскаму раёну Магілёўскай вобласці – Пятра Мігурскага. Крымінальная справа ў дачыненні да апошняга заведзена «за перавышэнне службовых паўнамоцтваў», хаця назіральнік выконваў грамадскія абавязкі. За ўдзел у назіранні звольнены з працы каардынатар па Крупскаму раёну Мінскай вобласці, настаўнік Андрэй Аляхновіч і выкладчык Смілавіцкага сельскагаспадарчага тэхнікума ў Чэрвеньскім раёне Мінскай вобласці Аляксандр Нікіцін. Яго сын, які таксама працуе выкладчыкам гэтага тэхнікума, атрымаў ад дырэктара навучальнай установы папярэджанне «за антыдзяржаўную дзейнасць». Каардынатар па горадзе Бялынічы Магілёўскай вобласці Алег Мяцеліца адседзеў 15 сутак за правядзенне семінараў з назіральнікамі на сваёй кватэры. Паводле слоў Бяляцкага, існуе пагроза ўзбуджэння крымінальных спраў супраць каардынатараў назірання па Гродзенскай вобласці Сяргея Мальчыка і Уладзіміра Хільмановіча, а таксама па Гродзенскаму раёну – Уладзіміра Кісялевіча.

«Выбарчыя камісіі выканалі пастаўленую перад імі задачу, і Лукашэнка набраў больш за 75 працэнтаў галасоў выбаршчыкаў», – заявіў Бяляцкі.

Для Лукашэнкі менш пераканаўчая перамога была бы проста непрымальнай, улічваючы асаблівасці яго характару, лічыць Бяляцкі. Ён заўважыў, што камуфляжная форма, у якой з'яўляўся Лукашэнка, і яго маршальскі касцюм «нагадваюць то кубінскага правадыра Фідэля Кастра, то лідэра Лівіі Муамара Кадафі».

Заканчэнне на стар.3

# Беларусь ва ўзаемаадносінах

*Прапануем увазе чытача выняткі з даклада, які ўваходзіць у серыю працаў, якія будуць прадстаўляць думку польскіх недзяржаўных колаў па тэме істотных (з пункту погляду еўрапейскага паяднання) міжнародных праблемаў. Ініцыятарам даклада быў фонд ім. Стэфана Баторага. Ён падрыхтаваны з дапамогай Усходнееўрапейскага Дэмакратычнага Цэнтра – IDEE.*

### Новая палітыка ЕС дачынна Беларусі

З боку ЕС вельмі важна было б разглядаць Беларусь як суб'ект у міжнароднай палітыцы Саюза. Дачыненні з Беларуссю не могуць весціся ў кантэксце сувязяў ЕС з Расіяй. Беларусь павінна стаць часткаю новай усходняй палітыкі ЕС, уважлівай да этнічна разнастайнай прасторы, з якой Саюз будзе беспасярэдне межаваць пасля пашырэння на Усход. Недапушчальны разгляд Беларусі як часткі расійскай сферы ўплыву, характэрны для некаторых краінаў ЕС. Прыкладам тут – супольны аналіз дэпартаментаў планавання міністэрстваў замежных справаў Нямеччыны і Францыі. У ім адкрыта сказана пра Маскву як натуральны цэнтр цяжару для краінаў СНД і выключана магчымасць уваходжання ў будучыні ў склад ЕС між іншых краінаў і Беларусі.

Зыходзячы з палажэння пра суб'ектнасць Беларусі ў замежнай палітыцы Саюза, Брусэль павінен уплываць на сітуацыю ў гэтай краіне не праз Маскву, а праз наўпроставыя дыпламатычныя захады ў Менску.

Заканчэнне на стар.3

## Завяршаецца рэканструкцыя Прывакзальнай плошчы

Мяркуецца, што рэканструкцыя Прывакзальнай плошчы ў Мінску завершыцца да 1 лістапада. Паводле планаў праектоўшчыкаў, тут будзе збудаваны пешаходны тунэль з выхадам на вуліцу Кірава.

## Знеслі абразы

Тры каштоўныя абразы 17-га і 18-га стагоддзяў скрадзеныя са Свята-Духаўскай царквы ў вёсцы Падлессе Ляхавіцкага раёна. У храме, збудаваным у другой палове 18-га стагоддзя і які з'яўляецца архітэктурным помнікам, не было вартаўніка.

**НАДВОР'Е**

| Горад | Тэмпература |
| --- | --- |
| Віцебск | +7 +11 |
| Гродна | +10 +14 |
| Мінск | +9 +13 |
| Магілёў | +8 +12 |
| Брэст | +9 +13 |
| Гомель | +9 +13 |

Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**



**1500**

## «Белпошта» ўдарагаўляе незалежныя СМІ

Беларуская асацыяцыя журналістаў (БАЖ) выказвае абурэнне чарговым павышэннем – у паўтара раза – тарыфаў на паслугі рэспубліканскага дзяржаўнага аб'яднання «Белпошта».

Як паведаміла прэс-служба БАЖ, днямі рэдакцыі недзяржаўных газет атрымалі ад «Белпошты» ліст аб фарміраванні падпіснога каталога на першае паўгоддзе 2002 года. У лісце паведамляецца, што тарыфы на паслугі сувязі, якія будуць прымяняцца «Белпоштай» пры фарміраванні падпісных цэнаў, выраслі ў 1,47 раза.

Беларуская асацыяцыя журналістаў нагадвае, што яшчэ ў сакавіку гэтага года кіраўніцтва БАЖ і рэдакцыі пяці недзяржаўных газет звярталіся ў міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцыяў Беларусі, якое кантралюе выкананне антыманапольнага заканадаўства. Заяўнікі патрабавалі прызнаць незаконнай дзейнасць аб'яднання «Белпошта» ў частцы ўстанаўлення дыскрымінацыйных тарыфаў на паслугі па распаўсюджванні недзяржаўнай прэсы міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцыяў прызнала, што «Белпошта» злоўжывае сваім пануючым становішчам на рынку, аднак прадпісання аб спыненні такой дзейнасці, чаго патрабавалі заяўнікі, не вынесла.

20 верасня кіраўніцтва асацыяцыі журналістаў зноў звярнулася ў міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцыяў. БАЖ паведамляе аб новых тарыфах «Белпошты» і патрабуе ад чыноўнікаў адказу аб дзеяннях, прадпрынятых па папярэдняй заяве БАЖ і пяці недзяржаўных газет.

**Наталля КУЛАГІНА**

## Дзяўчына «Чорны арол»

Сенсацыйным паведамленнем на фоне ўсё горшых звестак пра стан здароўя беларускіх прызыўнікоў і салдатаў падаецца залічэнне ў эліту спецназа Брэсцкага гарнізона «Чорны арол» 21-гадовай Вольгі Мікалаевай.

Прапаршчык 38-й брыгады Вольга Мікалаева вытрымала ўсе асноўныя выпрабаванні на выжыванне, што суправаджаюць «каранаванне» крапавым бярэтам. Дзяўчына пераадольвала палаючую сцяну, паўзла 20 метраў пад калючым дротам, знаходзілася пад БТР у час яго руху, скакала з парашутам, выбіралася з агню на паверхні вадаёма. І хаця камандзіры ганарацца дзяўчынай «Чорны арол», але сама яна лічыць, што армія не дадае жаноцкасці, а таму дбае пра сваю будучыню з авалоданнем прафесіі юрыста-эканаміста на завочным аддзяленні інстытута сучасных ведаў у Мінску.

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

**ПРЭСА**

## Прыватныя друкарні страхуюцца і цэнзураць

Кіраўнікі прыватных друкарняў Беларусі працягваюць браць на сябе функцыі цэнзараў, паведамляе Беларуская асацыяцыя журналістаў (БАЖ). Так, па віне прыватнай мінскай друкарні «Плутас-Маркет» не быў надрукаваны ў тэрмін чарговы нумар недзяржаўнай газеты «Згода».

Раніцай 20 верасня галоўнаму рэдактару Аляксею Каралю замест надрукаванага тыражу вярнулі плёнкі з арыгінал-макетам газеты. Прычынай такіх дзеянняў друкарні паслужыла вострая палітычная сатыра, размешчаная на першай паласе «Згоды». У размове з Каралём адзін з кіраўнікоў «Плутас-Маркета» прызнаўся, што не жадае з-за газеты наклікаць на друкарню непрыемнасці з боку ўладаў, у тым ліку – праверкі фінансавай дзейнасці.

Гэта ўжо не першы выпадак умяшання кіраўніцтва друкарняў у дзейнасць незалежнай прэсы. Нагадаем, што ў канцы жніўня з-за незаконных дзеянняў кіраўніцтва прыватнай мінскай друкарні «Мэджык» быў сарваны выпуск газеты «Рабочы»; з «белымі плямамі» выйшлі два спецвыпускі «Предпринимательской газеты». А ў пачатку верасня «белыя плямы» можна было ўбачыць на першай паласе газеты «Народная воля».

Беларуская асацыяцыя журналістаў падкрэслівае, што, згодна з артыкулам 4 Закона аб друку, патрабаванні папярэдне ўзгадняць матэрыялы або здымаць іх з друку лічацца цэнзурай. Цэнзура ж у Беларусі забароненая Законам аб друку і артыкулам 33 Канстытуцыі.

**Наталля КУЛАГІНА**

**ВАНДАЛІЗМ**

## У Курапатах з'явіліся экскаватары

Кансерватыўна-хрысціянская партыя-БНФ занепакоена правядзеннем работ па рэканструкцыі Мінскай кальцавой аўтамабільнай дарогі ў раёне Курапатаў.

Рэканструкцыя сталічнай кальцавой аўтадарогі, якую плануецца завяршыць да 2002 года, цяпер ідзе поўным ходам. Прадугледжваецца, што ў выніку кальцавая на ўсім працягу будзе даведзеная да шасці паласаў.

У паведамленні, распаўсюджаным прэс-службай КХП-БНФ, адзначаецца, што пад маркай рэканструкцыі кальцавой дарогі адбываецца знішчэнне ўрочышча Курапаты – месца масавых пахаванняў ахвяраў рэпрэсіяў. Як паведамляе КХП-БНФ, будаўнічая тэхніка падведзеная ўшчыльную да месцаў пахавання, рабочыя пачалі спілоўваць дрэвы непадалёк ад вялікага крыжа, устаноўленага ў памяць пра загінуўшых.

Трэба адзначыць, што яшчэ некалькі месяцаў назад Камітэт па аўтамабільных дарогах афіцыйна папярэдзіў аб плануемых работах на кальцавой у раёне Курапатаў. З улікам спецыфікі месца дарожнікі схіляліся да варыянта пашырэння праезджай часткі не ў бок Курапатаў, а ў бок горада. Пры гэтым яны абяцалі, што земляныя работы будуць праводзіцца з пільным выкананнем «чалавечых нормаў і звычаяў».

**Аляксей АРЭШКА**

## У Шклове збіты незалежны журналіст

22 верасня двое невядомых увечары моцна збілі рэдактара незалежнай газеты «Шклоўскія навіны» Аляксандра Шчарбака. Напад адбыўся на неасветленай частцы вуліцы каля 10 гадзіны вечара. Два дзюжыя хлопцы ў цёмных скураных куртках моўчкі збілі рэдактара і потым гэтак жа моўчкі сышлі, нічога не забраўшы. Білі так жорстка, што ў нейкі момант Аляксандр Шчарбак нават губляў прытомнасць. Нягледзячы на тое, што ўсё адбылося досыць хутка, у адным з нападнікаў журналіст пазнаў прадстаўніка тутэйшых «эрэнешнікаў». Як лічыць сам ахвяра нападу, за ім сачылі, бо Шчарбак спецыяльна нікому не паведамляў, куды будзе рушыць.

Трэба адзначыць, што рэдактар «Шклоўскіх навінаў» з'ўляецца фігурантам па ўзбуджанай напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў крымінальнай справе. Разам з ім у антыдзяржаўных дзеяннях абвінавачваюцца актывісты незарэгістраванага руху «Зубр». Не так даўно ў кватэры Шчарбака мясцовая міліцыя правяла вобшук і канфіскавала абсталяванне, на якім рабілася газета. Магчыма таму, што відавочная ангажаванасць улады ў перасьледзе незалежнага журналіста і газеты, Шчарбак не мае вялікіх надзеяў на дапамогу праваахоўных органаў. Ён звярнуўся пасля нападу ў міліцыю, але супрацоўнікі Шклоўскага РАУС здолелі толькі вярнуць рэдактару газеты разбітыя акуляры.

**Іван ЗАСАДА**

## Лябедзька чакае Азаронка з адпачынку

Разгляд іску аб абароне гонару і годнасці лідэра Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) Анатоля Лябедзькі да аўтара праграмы Беларускага тэлебачання «Тайныя спружыны палітыкі» Юрыя Азаронка перанесены на 1 лістапада. Такое рашэнне прыняла 21 верасня суддзя Першамайскага раённага суда Мінска Алена Ананіч. У сваёй праграме, паказанай па БТ 22 і 29 сакавіка, Азаронак сцвярджаў, што пасля адной з паездак у Польшчу дабрабыт Лябедзькі палепшыўся на 8,5 тысячы долараў. Пры гэтым аўтар не прыводзіў ніякіх доказаў.

Паводле словаў Лябедзькі, гэта – «поўная хлусня». «Я нават не ведаю, адкуль яна ўзялася, таму што такога факта нават блізка не было», – сказаў лідэр АГП. Лябедзька расцэньвае з'яўленне гэтай праграмы як «палітычны заказ».

Перанос разгляду справы звязаны з адсутнасцю ў зале суда адказчыка. Як паяснілі юрысты Белдзяржтэлерадыёкампаніі, да канца кастрычніка Юрый Азаронак будзе знаходзіцца ў адпачынку. Акрамя таго, юрысты тэлерадыёкампаніі прадставілі суддзі тлумачэнне за подпісам выконваючага абавязкі старшыні кампаніі Ягора Рыбакова. У дакуменце гаворыцца, што БТ не можа прадставіць суду відэакасету з запісам гэтай праграмы, паколькі мае праблемы з магнітнымі носьбітамі. У сувязі з гэтым відэазапісы праграмаў захоўваюцца не больш за адзін месяц.

**Юрый ПАЦЁМКІН**

**КАЗУС**

## Няўдзячны лёс




Вось такія кардоны з людзей у цывільным стаялі перад Кастрычніцкай плошчай на шляху да Палаца Рэспублікі, дзе 20 верасня адбылася прэзідэнцкая інаўгурацыя Аляксандра Лукашэнкі, дзе ён чарговым разам пакляўся на Канстытуцыі Беларусі верна служыць беларускаму народу. Цырымонія інаўгурацыі даставіла багата нязручнасцяў жыхарам сталіцы, фактычна паралізаваўшы жыццё ў цэнтры Мінска. Ні на метро паехаць, ні ў «Макдональдсе» паесці.

На інаўгурацыйнае мерапрыемства для выбраных не пусцілі нават праваабаронцу Яўгена Новікава, які працаваў аглядальнікам на Беларускім тэлебачанні, дзе ў сваёй аўтарскай перадачы кожны панядзелак цягам цэлага года распавядаў беларусам, як дрэнна з правамі чалавека за мяжой і якая добрая сітуацыя з імі ў Беларусі. Але марна крычаў ён на подступах да Палаца Рэспублікі, марна даводзіў, што заслужыў прысутнічаць на інаўгурацыі прэзідэнта, што мае пропуск, што ён той самы Новікаў. Цікава, што ў той момант праваабаронца Яўген Новікаў думаў і гаварыў пра сябе аб новай старой уладзе ў краіне і аб правах чалавека ў ёй. Відаць, перажываў і злаваўся, што год пайшоў кату пад хвост. Стараўся, стараўся, а аддзячылі во як! Самага галоўнага не пабачыў!



## «Царская» прысяга

На думку Паўла Казлоўскага, цырымонію клятвы ваеннаслужачых, якая адбылася на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску 20 верасня, можна параўнаць з прысягай рускай арміі новаму цару. Такое меркаванне першы міністр абароны Рэспублікі Беларусь выказаў у гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН. Гэта параўнанне навеяла яму не толькі сама цырымонія, але ў большай ступені тэкст клятвы, які быў зачытаны перад строем міністрам абароны генерал-палкоўнікам Леанідам Мальцавым. «Воінства паклялося цару», – канстатаваў П.Казлоўскі.

Цырымонія такой клятвы выклікае ў былога міністра абароны неразуменне, паколькі яна не рэгламентаваная якімі-небудзь актамі. Тое ж самае, напомніў ён, тычыцца і формы галоўнакамандуючага Узброенымі Сіламі Рэспублікі Беларусь, у якой прэзідэнт на Абуз-Лясноўскім палігоне пад Баранавічамі прымаў парад падраздзяленняў сілавых структураў, якія ўдзельнічалі ў вучэннях «Нёман-2001». Паводле словаў Паўла Казлоўскага, у яго была інфармацыя, што і 20 верасня на цырымоніі клятвы Аляксандр Лукашэнка меўся быць у форме «ці то маршала, ці то генералісімуса». Аднак на прыступках Палаца Рэспублікі прэзідэнт стаяў усё ж у цывільным.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

**МЯЖА**

## Грузы сумніўнага паходжання

На гэтым тыдні ў рамках аперацыі «Антытэрор», якая праводзіцца ў Брэсцкай вобласці пасля трагедыі ў ЗША, былі затрыманыя грузы, якія выклікаюць сумненні ў законнасці іх паходжання.

18 верасня супрацоўнікамі аддзела па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі Бярозаўскага РАУС сумесна з ДАІ быў затрыманы аўтамабіль, які перавозіў апаратуру. Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе УУС Брэсцкага аблвыканкама, грузавы аўтамабіль «Рэно» быў спынены для праверкі на дарозе каля вёскі Здзітава Бярозаўскага раёна. У аўтамабілі знаходзілася аўдыё-, відэа- і тэлеапаратура на суму 80 мільёнаў 936 тысяч рублёў. У суправаджальных дакументах значылася, што адпраўшчыкам грузу з'ўляецца камерцыйная фірма з Брэста, а атрымальнікам – фірма са Смаленска. Супрацоўнікі міліцыі ўстанавілі, што камерцыйная фірма з Брэста спыніла сваё існаванне ў 2000 годзе.

Таксама 18 верасня ў 3 гадзіны 40 хвілінаў ночы ў Драгічынскім раёне супрацоўнікі мясцовага аддзела па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі затрымалі аўтамабіль ЗіЛ-130, які належыць прыватнаму прадпрымальніку. У аўтамабілі знаходзіліся аўтазапчасткі на суму 22 мільёны 593 тысячы рублёў. Суправаджальных дакументаў на гэты груз у вадзіцеля, жыхара Кобрына, не было.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

**ЮБІЛЕЙ**

## Першы музей у крэпасці быў польскі

Напярэдадні прызначанага на пачатак лістапада святкавання 45-годдзя музея абароны Брэсцкай крэпасці ўжо не ўтойваецца ад грамадскасці, што ўсё-такі першая спроба стварыць музейную калекцыю належыць палякам.

Яшчэ ў 1938 годзе на тэрыторыі Брэсцкай крэпасці былі праведзеныя археалагічныя пошукі. Паводле першых знаходак, адукаваны і цікаўны да гісторыі генерал Францішак Клеберг склікаў навуковую канферэнцыю з удзелам прадстаўнікоў гарнізона і навукоўцаў Варшаўскага політэхнічнага універсітэта. Гэта быў пачатак стварэння ў Брэсце музея крэпасці і горада. Функцыі кантролю над улікам і захоўвання экспанатаў даручылі начальніку Ваеннага акруговага суда Томашу Жуку-Рыбіцкаму.

На жаль, падпалкоўнік Жук-Рыбіцкі не пазбегнуў лёсу большасці польскіх вайскоўцаў: з 1940 года да сваёй смерці 27 верасня 1944 года ён быў вязнем канцлагераў IX-A ў Любяку і VI-B у Дусселі (Германія). Але, пакутуючы на чужыне, польскі патрыёт вёў нататкі пра менавіта першы крэпасны музей. Як узгадваецца, сярод першых экспанатаў музея быў стол, за якім падпісвалі Брэсцкі мір 3 сакавіка 1918 г., калекцыя манет, халодная і агнястрэльная зброя Брэстчыны XIX-XX стагоддзяў, калекцыя шлемаў, гарматаў, снарадаў.

**Галіна БАРАВАЯ**

**ДАЎГІ**

## Камісія ўразае зарплату

Брэсцкі аблвыканкам ініцыіруе зараз стварэнне камісіі на чале са старшынёй Камітэта па працы Фёдарам Клюкачом, якая павінна, як сіта, працэджваць банкаўскія крэдыты, што патрабуюцца пад выплату зарплаты. Сітуацыя крытычная, бо пакорліва выконваючы наганяй перад выбарамі, вобласць ужо з красавіка пачала рэзка нарошчваць запазыку прадпрыемстваў і арганізацыяў па банкаўскіх крэдытах і абавязковых бюджэтных плацяжах. У траўні, прыкладам, хаця на 60 % прамысловых прадпрыемствах разлічыліся па зарплаце, але мінус па падатках склаў амаль 3 мільярды рублёў, у чэрвені і ліпені – ужо 4,2 мільярда, а па выніках сямі месяцаў – 10 мільярдаў 399 мільёнаў 600 тысяч рублёў. Нядоімка РУПП «Граніт» Лунінецкага раёна пераваліла за 726 мільёнаў рублёў, ААТ «Брэсцкі электрамеханічны завод» – 490 мільёнаў рублёў, сельскагаспадарчага прадпрыемства «Манькавічы» Столінскага раёна – 174 мільёны рублёў.

Дадзена ўказка ўрэзаць грашовую частку па максімуме там, дзе ёсць нерэалізаваная прадукцыя, а ў безграшовых калгасах і саўгасах – разлічвацца выключна харчамі расліннага і жывёльнага паходжання. Гэта, бадай, першы «званок» з рэгіёнаў аб рэальным супраціве гаспадарчай наменклатуры ў рэгіёне ранейшаму вокрыку з Мінска аддаць усё, што людзі зарабілі. Пра 100-доларавы мінімум гаворкі на месцах як бы ўжо ўціхлі.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

# Татальныя фальсіфікацыі

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

«Для чалавека, які імкнецца быць падобным на вядомых гістарычных дзеячаў, перамога на выбарах кіраўніка дзяржавы можа быць толькі пераканаўчай», – лічыць Бяляцкі.

### Уладзімір Гудзееў: «25% галасоў «перакачавалі»

Да 25% галасоў выбаршчыкаў, пададзеных за аднаго кандыдата ў прэзідэнты, «перакачавалі» да другога. Пра гэта заявіў старшыня грамадскага аб'яднання «Беларускі рэспубліканскі клуб выбаршчыкаў» Уладзімір Гудзееў.

Ён паведаміў, што звесткі аб выніках галасавання атрыманы ад назіральнікаў, якія знаходзіліся прыкладна на 70% усіх выбарчых участкаў. Як адзначыў Гудзееў, папярэдні этап галасавання характарызаваўся масавым прымусам выбаршчыкаў (зафіксавана 314 падобных фактаў), а таксама шматлікімі парушэннямі правілаў захоўвання скрыняў для галасавання і фактамі іх адкрывання (адзначана 435 такіх фактаў).

Аналізуючы вынікі папярэдняга галасавання на 35% выбарчых участкаў, Гудзееў зазначыў, што больш за ўсё грамадзян датэрмінова прагаласавала ў Віцебскай вобласці – 30,4% выбаршчыкаў, а менш за ўсё – у Брэсцкай вобласці (19,96%).

Аднак, як падкрэсліў Гудзееў, гэтыя лічбы адлюстроўваюць ход папярэдняга галасавання, у асноўным, у гарадах. Паводле яго словаў, прыкметна адрозніваецца сітуацыя з вынікамі папярэдняга галасавання ў сельскай мясцовасці. Так, у Дубровенскім раёне Віцебскай вобласці датэрмінова прагаласавалі 54% выбаршчыкаў, у Клецкім раёне Мінскай вобласці – 51%, а ў Буда-Кашалёўскім раёне Гомельскай вобласці – 34,64%. «Я думаю, што ў цэлым па краіне доля датэрмінова прагаласаваўшых магла дасягнуць 30%», – сказаў Гудзееў.

Ён звярнуў увагу таксама на тое, што вынікі датэрміновага галасавання часам прыкметна адрозніваюцца ад вынікаў галасавання 9 верасня. Так, паводле звестак назіральнікаў, на ўчастку №1 Першамайскага раёна Мінска з 422 датэрмінова прагаласаваўшых Аляксандру Лукашэнку свае галасы аддалі 98,1% выбаршчыкаў, Уладзіміру Ганчарыку – 1,4 %. Аднак з 342 выбаршчыкаў, якія галасавалі 9 верасня, за Лукашэнку прагаласавалі 50,6%, а за Ганчарыка – 26,9%.

«Зыходзячы са звестак назірання, можна меркаваць, што частка выбарчых бюлетэняў, апушчаных у скрыні падчас папярэдняга галасавання, была падменена», – заявіў Гудзееў.

Акрамя таго, ён назваў іншыя факты, адзначаныя назіральнікамі, якія могуць сведчыць пра фальсіфікацыю вынікаў выбараў. Сярод іх – прыкметная розніца паміж афіцыйнымі звесткамі аб колькасці прагаласаваўшых у дзень выбараў і звесткамі назіральнікаў, розныя маніпуляцыі з выбарчымі бюлетэнямі (укідванні, перакладванні са стосіка ў стосік) і непраўдападобна высокая доля галасаваўшых дома. Так, у Мінскай вобласці яна склала 11,58% выбаршчыкаў. На некаторых участках прыкладна 70%-80% выбаршчыкаў прагаласавалі датэрмінова і дома, сказаў Гудзееў.

«Калі накласці гэтыя звесткі не на трэць выбарчых участкаў, а на ўсе, і ўлічыць магчымыя парушэнні выбарчага заканадаўства ў сельскай мясцовасці, то можа ісці размова аб тым, што каля 25% галасоў аднаго кандыдата ў прэзідэнты сталі набыткам другога», – заключыў Уладзімір Гудзееў.

### Таццяна Процька: «Прэзідэнт зноў нелегітымны»

Сёння Беларусь мае прэзідэнта, абранага недэмакратычна, і да таго ж нелегітымнага з пункту гледжання міжнароднай супольнасці. Такую заяву зрабіла старшыня Беларускага Хельсінкскага камітэта (БХК) Таццяна Процька 21 верасня ў Мінску на прэс-канферэнцыі па выніках незалежнага назірання за выбарамі.

Гэтыя вынікі, заявіла Процька, сведчаць аб тым, што выбары не былі празрыстымі, а кандыдатам на пасаду кіраўніка дзяржавы не быў забяспечаны роўны свабодны доступ да СМІ. Акрамя таго, паводле слоў кіраўніка БХК, падчас выбарчай камісіі і асабліва пасля яе разгарнуўся пераслед апазіцыйных дзеячаў і тых людзей, якія падчас выбараў былі не на баку ўладаў. «Такім чынам, улады цынічна не выканалі асноўныя патрабаванні АБСЕ», – заявіла Таццяна Процька.

Яна таксама адзначыла, што падчас выбараў быў парушаны асноўны канстытуцыйны прынцып тайнага галасавання. Паводле звестак Процька, на большай частцы сельскіх выбарчых участкаў каля 60% выбаршчыкаў галасавалі адкрыта, а пераважная большасць тых, хто галасаваў дома, аддалі свае галасы Аляксандру Лукашэнку, паколькі баяліся адкрыта выказваць сваё меркаванне. «У такіх умовах ніякія падлікі галасоў і ніякія выніковыя пратаколы галасавання не могуць быць прызнаны справядлівымі», – заявіла старшыня БХК.

«Самае ж сумнае, што людзі, якія ўдзельнічалі ў шматлікіх парушэннях выбарчага заканадаўства, будуць не пакараны дзеючымі ўладамі, а ўзнагароджаны імі», – сказала Таццяна Процька. Паводле яе звестак, сума ўзнагароджання гэтым «людзям, якія сваімі дзеяннямі нанеслі ўрон нацыянальным інтарэсам Беларусі», можа скласці 700 долараў ЗША кожнаму.

**Іван ПЯТРОЎ**




# «Лукойл» грабе пад сябе

Расейская кампанія «Лукойл» намагаецца ўсталяваць кантроль над беларускай нафтахіміяй. У Горадні, Магілёве і Наваполацку чакаюць буйнамаштабнай экспансіі расейскага капіталу.

Паводле словаў менскага прадстаўніка «Лукойлу» Ўладзімера Кабанава, на інаўгурацыі Аляксандра Лукашэнкі прысутнічаў расейскі алігарх Вагіт Алекпераў. І гэта невыпадкова.

Напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі кіраўнік «Лукойлу» ўхваліў эканамічную палітыку Лукашэнкі і паабяцаў прыцягнуць у краіну 1 мільярд даляраў інвэстыцыяў. За гэта «Лукойлу» паабяцалі выгаднае разьмяшчэньне ягоных капіталаў.

Як паведаміў маскоўскі прадстаўнік «Лукойлу» Дзьмітры Далгоў, пасьля беларускіх выбараў бакі актывізавалі перамоўны працэс. Як вынікае з тлумачэньняў расейскага боку, «Лукойл» выказвае вялікі інтарэс да супрацоўніцтва зь вядучымі прадпрыемствамі беларускай нафтахіміі. У прыватнасьці, гарадзенскім «Азотам», магілёўскім «Хімвалакном», наваполацкімі «Нафтанам» і «Палімірам».

Цяперашнія ініцыятывы расейцаў намесьнік генэральнага дырэктара «Нафтану» Віктар Канобры пракамэнтаваў наступным чынам: «Ідуць рабочыя кансультацыі. Група, якую стварылі «Белнафтахім» і «Лукойл», працавала і працягвае працаваць у нас. Пытаньне, такім чынам, нявызначанае. Усё будзе вызначацца ўмовамі, якія будзе прапаноўваць «Лукойл». «Лукойл» зацікаўлены ў стварэньні структураў, у якіх ён бы браў удзел.

Мы ж дзяржаўнае прадпрыемства і самі не прымаем рашэньняў. Прапановы будуць накіраваныя ва ўрад і прэзыдэнту. І яны вырашаць: ці прымальныя ўмовы, на якіх «Лукойл» хацеў бы працаваць на рынку Беларусі».

На думку экспэртаў, «Лукойл» свой мільярд інвэстыцыяў не адважыцца ўкладаць у дзяржаўныя прадпрыемствы. А таму расейская кампанія будзе патрабаваць ад Аляксандра Лукашэнкі іхнага разьдзяржаўленьня. Пляны прыватызацыі беларускай нафтахіміі ўжо зараз шырока абмяркоўваюць у працоўных калектывах. Як вядома, на гэтых прадпрыемствах дзейнічаюць структуры Беларускага незалежнага прафсаюзу. Вось што паведаміў на гэты конт ягоны лідэр Віктар Бабаед: «Мы таксама разглядалі гэтую праблему. Пасьля выбараў мы бачым, што выконваюцца дамоўленасьці кіраўніцтва дзяржавы з расейскімі фірмамі аб падзеле маёмасьці. Я быў у рэгіёнах і ведаю, што экспэрты з «Лукойлу» сёньня працуюць у Наваполацку, Горадні.

Інакш кажучы, найлепшыя прадпрыемствы Беларусі будуць прыватызаваць. Як кіраўніка прафсаюзу мяне цікавіць, якой будзе форма прыватызацыі, які ўдзел у гэтым працэсе возьме наш прафсаюз, працоўныя калектывы, ці захаваюцца працоўныя месцы. Я размаўляў з кіраўнікамі «Паліміру» пра тое, што гэтыя гарантыі пры так званых інвэстыцыях мы павінны захаваць».

**Міхал СТЭЛЬМАК**
**Радыё «Свабода»**

ТЭНДЭНЦЫІ

# Манаполія на камп'ютэры

Зусім ня выключана, што неўзабаве будзе манапалізаваная яшчэ адна сфэра беларускага рынку. Гэтым разам на карысьць дзяржавы могуць пераглядзець такую прыбытковую галіну як камплектацыя й рэалізацыя кампутарнай тэхнікі.

Адпаведны заканапраект чакае свайго зацьверджаньня ў канчатковым чытаньні на адной з сэсіяў «палаты прадстаўнікоў». Калі яго прымуць, больш за паўсотні камэрцыйных структураў, якія займаюцца камплектацыяй і продажам кампутарнай тэхнікі, будуць дзяржаве не патрэбныя. Нават паводле папярэдніх разьлікаў, колькасьць беспрацоўных адначасна можа павялічыцца на некалькі тысяч чалавек. Што зараз уяўляе кампутарны рынак, распавядае супрацоўнік адной зь фірмаў Алег Шацкі: «Гэта найперш фірмы, якія набываюць вялікія партыі кампутарнага абсталяваньня. Потым фірмы, якія перакупляюць у першых гэтыя камплектныя дэталі дзеля зборкі самастойнай альбо далейшага перапродажу. І канчатковы варыянт — фірмы, якія рэалізуюць пакупнікам кампутары ў зборы. Гэты цыкль мае на ўвазе ўдзел дастаткова вялікай колькасьці людзей. Што будзе ў выпадку манапалізацыі? Нічога добрага. Але найперш зараз зьдзіўляе спроба выдаць за беларускае тое, дзе ніводнага шруба ня зроблена ў Беларусі».

Паводле дасьведчаных крыніцаў, манапольнае права на забесьпячэньне рынка кампутарным абсталяваньнем хутчэй за ўсё атрымае Менскае вытворчае аб'яднаньне вылічальнай тэхнікі — гэтае прадпрыемства ўжо зараз за асноўнае ва ўрадавай праграме «Дзяржаўны інавацыйны фонд».

Праўда, ёсьць меркаваньні, што па сутнасьці праграма больш блізкая да фікцыі. Паводле адмысловай урадавай пастановы, сапраўды дзяржаўныя прадпрыемствы маюць права набыць аргтэхніку за сродкі інавацыйнага фонду. Але разам з тым маецца на ўвазе, што сродкі фонду складаюць рэгулярныя адлічэньні з боку суб'ектаў гаспадараньня. Урэшце атрымліваецца, што тэхніка набываецца за свае ж грошы. Вось як, паводле спадара Шацкага, гэта рэальна адбываецца: «Продаж кампутараў праз інавацыйны фонд перадалі былому заводу Арджанікідзэ. Дакладна ня ведаю статус адказнай за гэта структуры, але галоўнае — сам мэханізм. Дасылаеш спэцыфікацыю, і яны ўжо на ўласны густ робяць камплектацыю. Папярэдне я пагутарыў з супрацоўнікамі на прадмет якасьці, і яны даволі арыгінальна «супакоілі»: нічога беларускага ў кампутарах няма. Маўляў, не хвалюйцеся.

Шэф заплаціў, мы кампутары атрымалі, а на задняй накрыўцы надпіс —»Зроблена ў Беларусі». Як гэта магчыма? Можа яны самі езьдзяць у Маскву, можа тут у гуртавікоў набываюць. Людзі, быццам, разумныя, ім таксама трэба атрымаць максымум прыбытку. Вось і пытаньне: чым яны розьняцца ад той масы фірмаў, якія займаюцца гэтым зараз? Гэта з таго ж шэрагу, як і манапалізацыя рынку алькаголю».

Сапраўды, ніводная зь беларускіх кампутарных фірмаў не займаецца так званым ліцьцём формаў. Увесь асартымэнт базуецца на ручным зборы імпартовых камплектных дэталяў. Але, адрозна ад дзяржаўнага прадпрыемства, ніхто яшчэ не спрабаваў выдаць прадукцыю за айчынную.

Што да досьведу Менскага вытворчага аб'яднаньня вылічальнай тэхнікі, то ён зусім далёкі ад звыклых у нашым разуменьні кампутараў — аб'яднаньне займаецца прамысловымі вылічальнымі машынамі. Нават у аб'яднаньні не хаваюць, што перавесьці вытворчы цыкль у рэчышча пэрсанальных кампутараў пакуль не выпадае. Як і большасьць прадпрыемстваў-гігантаў, аб'яднаньне пакутуе ад недахопу рынкавай мабільнасьці.

**Ігар КАРНЕЙ**
**Радыё «Свабода»**

# Беларусь ва ўзаемаадносінах

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

У вядзеных з Расіяй размовах ЕС мае выразна падкрэсліваць, што Маскве не варта падтрымліваць недэмакратычны рэжым Лукашэнкі. Падтрымка расійскімі ўладамі гэтага рэжыму з'яўляецца для развіцця дачыненняў ЕС-Расія такой самай праблемаю, якой нядаўна было пытанне расійскай падтрымкі рэжыму Слабадана Мілошавіча.

ЕС павінен афіцыйна заявіць, што ён не выключае ў будучыні чальцоўства Беларусі ў Саюзе. Адным з галоўных палажэнняў памянёнай новай усходняй палітыкі ЕС, у якой бы знайшлося месца й для Беларусі, было б падтрыманне праеўрапейскіх дзеянняў уладаў гэтай краіны. Умоваю залучэння Беларусі ў будучыні ў лік кандыдатаў была б воля на ўваходжанне ў склад ЕС, выражаная дэмакратычна абранымі ўладамі дзяржавы, а таксама прызнанне імі канечнай патрэбы адпаведнасці Беларусі капэнгагенскім крытэрам. Робячы выснову з ранейшай практыкі, цяжка сабе ўявіць, каб гэтую ўмову мог выканаць Лукашэнка. Такім чынам, пастулат скіраваны хутчэй да наступных кіраўнікоў Беларусі.

Паказ Саюзам еўрапейскай перспектывы для Беларусі працідзеяў бы стэрэатыпу «нас ніхто ў Еўропе не чакае», пашыранаму ў гэтай краіне, у тым ліку і ў асяроддзі палітычнай эліты.

Ужо цяпер Саюз павінен падрыхтаваць праграму канкрэтнай дапамогі (напр., ільготы пры доступе на рынак ЕС беларускіх тавараў) на выпадак пазітыўных пераменаў у Беларусі. У пэўным сэнсе гэта было б паўтарэннем сербскага варыянту.

У асяроддзях экспертаў у краінах цяперашняга ЕС можна сустрэцца з асцярогаю, што праеўрапейскія захады ў дачыненні да Беларусі будуць трактавацца Масквою як палітыка антырасійская. Большасць расійскай палітычнай эліты ўспрымае Беларусь або як частку Расіі, або як краіну, натуральным чынам прыналежную расійскай сферы ўплываў. Такі падыход з пункту погляду ЕС не ідзе на карысць, бо гэта праява імперскага мыслення расійскай эліты, зважаючы на якое цяжка сабе ўявіць добрыя сувязі ЕС і Расіі. Шанцам на прынамсі частковую змену ранейшага непазітыўнага спосабу мыслення расійскай палітычнай эліты было б перакананне яе ў тым, што толькі цеснае супрацоўніцтва з Саюзам такіх краінаў, як Беларусь, а таксама самой Расіі можа прывесці да паляпшэння эканамічнай сітуацыі на постсавецкай прасторы.

### Процідзеянне ізаляцыі

Вялізнае значэнне для фармавання ў Беларусі грамадскіх падыходаў, пазітыўных з гледзішча ЕС, мае магчымасць свабодных паездак жыхароў гэтай краіны ў Саюз. Вось чаму трэба максімальна спрасціць парадак выезду грамадзянаў Беларусі ў ЕС у рамках *acquis Schengen*. Гэта будзе важна асабліва пасля ўваходжання ў Еўрасаюз беспасярэдніх суседзяў Беларусі — Латвіі, Літвы і Польшчы. У будучыні, як мага бліжэйшай, ЕС павінен разгледзець магчымасць выключэння Беларусі з чорнага спісу краінаў, грамадзянам якіх патрэбныя візы для ўезду на тэрыторыю Саюза.

Кантакты з суседзямі, што стануць чальцамі ЕС, для беларусаў асабліва важныя, улічваючы магчымасці выездаў у гэтыя краіны вялікай колькасці грамадзянаў Беларусі. Паездкі ў Латвію, Літву і Польшчу дапамагаюць беларусам на свае вочы пераканацца ў карысці, якая вынікае з еўрапейскай інтэграцыі.

Каб прадухіліць ізаляцыю Беларусі, варта інвеставаць у пабудову праеўрапейскай эліты. Асабліва важныя стыпендыяльныя праграмы для моладзі. Беручы пад увагу моўную блізкасць, значную частку гэтых праграм можна было б рэалізоўваць у Польшчы. Навучанне маладых людзей паблізу Беларусі дае большую гарантыю, што ладная іх частка не страціць кантактаў з бацькаўшчынаю і туды вернецца. Пры выездах на большую адлегласць многія людзі хочуць застацца у аддаленых ад Беларусі краінах, адначасна трацячы кантакт з бацькаўшчынаю.

Веды пра тое, што такое ЕС, у Беларусі далёкія ад здавальняючых. Затым жа належала б правесці інфармацыйную акцыю пра Еўрасаюз. Варта было б, напр., зарганізаваць еўрапейскія дні ў Менску і ў іншых гарадах Беларусі. Больш актыўную ролю ў папулярызацыі ЕС у Беларусі маглі б адыграць пасольствы дзяржаваў-чальцоў Саюза.

ЕС не павінен унікаць дыялога з Беларуссю на ніжэйшым узроўні. Кантакты з беларускай бюракратыяй, якая сёння падтрымлівае Лукашэнкаў рэжым, але ў будучыні можа стаць на бок іншых прэтэндэнтаў на ўладу, могуць мець ключавое значэнне для будучых стасункаў Еўрасаюза і Беларусі. Многія ж ініцыятывы, ухваленыя на найвышэйшых узроўнях, могуць, як вядома, эфектыўна тармазіцца ўсюдыіснай мясцовай бюракратыяй.

 



# Рарытэты на колах

*Кожны раз міжволі праводзіш вачыма праехаўшы міма стары аўтамабіль, які кантрастна і таму вабна выглядае сярод стракатых бліскучых чародаў сучасных аўто. Калісьці – на золку рухавіковай эпохі — на іх таксама пазіралі з подзівам. Але цяпер яны – рарытэты і помнікі транспарту. Але, бывае, гэтыя сапраўдныя музейныя экспанаты круцяць колы па беларускіх дарогах.*

У нашай краіне некалькі буйных вядомых калекцыяў старога транспарту. У першую чаргу гэта аўтамабілі, якія належаць сябрам Таварыства абароны тэхнікі і помнікаў транспарту «Наша Перамога» і знаходзяцца ў музейным комплексе «Дудуткі».

Як распавёў намеснік кіраўніка клуба «Наша Перамога» Васіль Цярэшка, у яго аб'яднаныя ўладальнікі блізу сарака адзінак старога транспарту. Збольшага гэта, як можна здагадацца па назве Таварыства, без перабольшвання стаўшыя культавымі аўтамабілі «Перамога» (ГАЗ-М20). Мадэль распрацаваная яшчэ ў часе Другой сусветнай вайны і серыйна выпускалася ў СССР на працягу 13 гадоў — з 1945 па 1958 гады. Усяго было выпушчана 236 тысяч машынаў. «Перамога» выпускалася на Горкаўскім аўтазаводзе, а потым нават быў ейны польскі варыянт. Яна выраблялася ў мадэрнізаваным выглядзе ў Польшчы пад назвай «Варшава». Яшчэ пазней ажно да 90-ых гадоў мінулага стагоддзя палякі менавіта на базе «Перамогі» стварылі свае «Нысы», «Тарпаны» і «Жукі».

Апрача «Перамогаў» і «Варшаваў», у Таварыства абароны тэхнікі і транспарту маюцца такія аўтамабілі, як «Чайка», «ГАЗ-М1» ад 1935 года, амерыканскі «Уіліс», якія ЗША пастаўлялі ў СССР падчас вайны па ленд-лізе, нямецкі «Хорх» ад 1937 года, якія выраблялiся ў свой час па індывідуальных заказах і на якіх ездзіла толькі кіраўніцтва Рэйха. З беларускіх машынаў ёсць «МАЗ» 1952 года выпуску, дзе быў перасовачны штаб маршала СССР Цімашэнкі, які камандаваў Мінскай вайсковай акругай. У «Нашай Перамозе» мараць яшчэ знайсці самыя першыя беларускія грузавік, матацыкл і трактар.

У задумах і стварэнне Беларускага музея тэхнікі і транспарту. Уладальнікі унікальных аўтамабіляў (і не толькі – тут маглі б быць і карэты, і цялегі) пакідалі б іх пад адказнае захаванне і пры жаданні забіралі б калі заўгодна. Як тое робіцца, напрыклад, у адмысловым музеі ў Рызе. Дарэчы, якраз у латвійскай сталіцы першай у колішнім СССР былі створаны такі аўтамузей. Гэта было абумоўлена тым, што там напачатку 20 стагоддзя была наладжаная вытворчасць першага масавага аўтамабіля ў Расійскай імперыі «Русабалт». Спроба стварыць Беларускі музей гісторыі тэхнікі і транспарту была, але няўдалая. Яго меркавалася зрабіць у Заслаўі ў запаснай краме 19 стагоддзя каля касцёла, але летась, пашыраючы дарогу напярэдадні Дня пісьменства, той будынак знеслі.

Таварыства абароны тэхнікі і помнікаў транспарту ад самага ўтварэння ў 1999 годзе ладзіць багата культурніцкіх акцыяў. Сярод іншага гэта аўтапрабегі па гістарычных мясцінах Беларусі. Па самых розных маршрутах. Ёсць, напрыклад, коласаўскі. Дарэчы, Якуб Колас вадзіў «Перамогу», яна захавалася і знаходзіцца ў ягоных нашчадкаў. Нездарма ў статуце Таварыства адной з задачаў названае выхаванне патрыятызму і аднаўленне ўвагі грамадства не толькі да помнікаў навукі, тэхнікі і транспарту, але і да гісторыка-культурных помнікаў. На жаль, уражанні ад такіх вандровак не заўжды прыемныя. Вось што распавядае В.Цярэшка: «Помнікі культуры – у жахлівым стане. І Беларусь – у жахлівым стане, як гэтыя помнікі. І яны не закансерваваныя, а пастаянна разбураюцца. У тым ліку расцягваюцца на цэглу». Прыкладна такое ж стаўленне, па словах намесніка кіраўніка Таварыства абароны тэхнікі і помнікаў транспарту, і «да старых самаходаў. У нас лічыцца, што на іх жабракі ездзяць». Ён згадвае, што калі яны ездзілі з гуртам «Ліцьвіны» на Купалле ў Польшчу, то ад палякаў адбою не было, усе хацелі сфатаграфавацца на фоне рарытэтных аўтамабіляў.

Запачаткавалася ж традыцыя ездзіць на рарытэтных машынах па старажытных сядзібах з Дудутак. Праўда, цяпер такіх вандровак там ужо не ладзяць. Ды і тая частка гэтай музеяванай вёскі, што складаецца са старых аўтамабіляў, з цягам часу значна змарнела. Зараз рарытэтныя аўто ў Дудутках – гэта збольшага статычная калекцыя. На ходзе тры аўтамабілі, што на замову турыстаў завязуць іх да Дудутак. Пры вялікім жаданні можна і самому за руль такой машыны сесці, але, як кажуць у фірме «Дудуткі-тур», тады з'яўляецца багата небяспекі, што здарыцца паломка. Гэта ўсё ж аўтамабілі, якім далёка за паўстагоддзе. Прычым начынне тых машынаў, што працуюць, «роднае».

У Дудутках – больш дзесяці машын і два матацыклы, у тым ліку легендарны «Харлей-Дэвідсан», якому некалькі дзесяцігоддзяў. Тут можна пабачыць машэраўскую «Чайку», амерыканскія «Уіліс» 1942 года (жаўнеры ў Другую сусветную вайну празвалі яго «джыпам», які пазней стаў тэрмінам, што абазначае аўтамабіль з павышанай праходнасцю) і «Бьюік» 1938 года (менавіта на іх падчас сухога закона ў ЗША ездзілі гангстэры, што займаліся кантрабандай алкаголю), правобраз сучаснай «Аўдзі» рэдкі нямецкі «Ганамаг» 1936 года (гэтыя машыны маглі сабе дазволіць толькі дужа багатыя немцы), першы савецкі ваенны легкавы аўтамабіль-усюдыход «ГАЗ-67Б», першая пасляваенная савецкая малалітражка «Масквіч-401» ад 1946 года выпуску. «Масквіч-401» — гэта трафейная мадэль, скапіраваная з нямецкага «Опеля-Кадэта»: з Нямеччыны вывезлі не толькі тэхнічную дакументацыю на яго, але і нават абсталяванне.

Маюцца ў Дудутках яшчэ машыны (абедзве канца 30-ых гадоў), з'яўленнем якіх свет абавязаны Гітлеру і Мусаліні, фюрэру і дучэ. Гаворка пра звышпапулярны і ўсім вядомы «Фольксваген-Жук» і «Тапаліна». Такую назву гэтаму серыйнаму аўтамабілю фірмы «Фіят» далі ў народзе, з італьянскага «тапаліна» перакладаецца як «мышаня». Гэта быў так званы «народны аўтамабіль». Як і «Фольксваген-Жук», што даслоўна менавіта так і перакладаецца.

Назву *volkswagen* прыдумаў ніхто іншы, як Адольф Гітлер. Ён жа даў заданне нямецкім аўтаканструктарам зрабіць «народны аўтамабіль», які б каштаваў да тысячы марак, змяшчаў 4 чалавек, рухаўся з хуткасцю 80 км/г і трациў 5 літраў паліва на сотню кіламетраў. Амаль такую машыну і ўдалося стварыць канструктару Фердынанду Паршэ, праўда, серыйна яе пачалі вырабляць толькі з 1945 года. Што цікава, стаць галоўным аўтамабільным канструктарам Паршэ ў 1932 годзе прапаноўваў Савецкі Саюз, але ён адмовіўся. «Жуком» гэтую мадэль «Фольксвагена» ўпершыню назваў адзін нью-йоркскі рэпарцёр. Так і павялося на многія гады. Гэтая мадэль валодае рэкордам па колькасці выпушчаных машын, прычым наўрад ці ён калі-небудзь будзе пабіты. Усяго з'явілася 20 мільёнаў «Фольксвагенаў-Жукоў». І ўсё более: калі ў Нямеччыне «жукоў» перасталі выпускаць напрыканцы 70-ых гадоў, то заводы ў Бразіліі і Мексіцы працягваюць рабіць іх яшчэ і дагэтуль.

Калісьці ў Дудутках усе пералічаныя машыны абслугоўвала і ставіла на ногі-колы цэлая паўнавартасная аўтамайстэрня, дзе працавалі адныя з самых лепшых і вядомых у Беларусі транспартных рэстаўратараў. Многія аўтамабілі збіралі літаральна з металалому. Выконвалі аўтарэстаўрацыйныя работы нават для галандцаў. Зараз замест таго сэрвісу засталіся некалькі кіроўцаў і механікаў, якія даглядаюць дудуткаўскую колавую калекцыю. Змазаць, падфарбаваць ці яшчэ што. Машыны, як вядома, гэта любяць, а калі стоймя стаяць ды яшчэ без дагляду, то так іржой паступова і з'ядаюцца. Не разгарнулася ўсё, як магло б быць, таму што клопатна і задорага. Адна толькі рэстаўрацыя старых аўтамабіляў чаго каштуе. За мяжой падобныя унікальныя калекцыі, тым больш калі яна яшчэ з рухомым функцыянуючым паркам, маюць багатыя людзі і багатыя краіны.

На думку кіраўнічкі фірмы «Дудуткі-тур» Валерыі Будзінас, арганізаваць нешта файнае і прыбытковае ў галіне турызму і перавозак з выкарыстаннем рарытэтных аўтамабіляў вельмі складана, хіба што ў Мінску можна. Аднак па ўсім дзеля гэтага спярша трэба дачакаць у Беларусі спрыяльнай эканомікі і належнага стаўлення да турыстычнай справы.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

● Нямецкі «Хорх». На такіх машынах ездзілі вышэйшыя нацысты Трэцяга Рэйха

● Рэдка пабачыш ажно тры «Перамогі» на вуліцах Мінска

● Калекцыя старых машын у Дудутках

## Выстава, прысвечаная мастаку

У мінскім Палацы мастацтва адкрылася выстава «Настаўнік і яго вучні», прысвечаная 90-годдзю вядомага мастака, заслужанага настаўніка Беларусі Сяргея Каткова, работы якога захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі і фондах Беларускага саюза мастакоў.

Выстава арганізаваная Беларускім саюзам мастакоў. На думку арганізатараў, асноўная яе канцэпцыя — пераемнасць пакаленняў, вечная тэма «настаўнік і вучань». На выставе прадстаўленыя работы самога Сяргея Каткова, яго вучняў, у тым ліку тых, якія сталі вядомымі мастакамі, а таксама работы іх вучняў — маладых майстроў пэндзля. Вучнямі Каткова былі заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Зоя Літвінава, дачка мастака Святлана Каткова, яго ўнучка, маладая мастачка Зоя Луцэвіч, народныя мастакі Беларусі Уладзімір Стэльмашонак, Май Данцыг, жывапісцы Матвей Басаў, Алег Казак, Аляксандр Квяткоўскі, Віктар Берын і іншыя. «Настаўнік і яго вучні» — гэта яшчэ і работы зусім маленькіх мастакоў.

Сяргей Каткоў (1911—1976) вядомы не толькі як выдатны мастак, але і як таленавіты педагог. Ён пачаў выкладаць у 1937 годзе, набраўшы дзяцей у выяўленчую студыю. Пасля вайны С.Каткоў аднвчасова працаваў у Мінскім мастацкім вучылішчы і ў студыі. Мастак быў арганізатарам стварэння ў Мінску школы-інтэрната для таленавітых дзяцей, сам ездзіў па аддаленых гарадках і вёсках у пошуках талентаў.

**Маша ПЯТРОВА**

**КАНФЕСІІ**

## Адноўлена царква

Епіскап Брэсцкі і Кобрынскі Сафроній асвяціў адноўленую Свята-Прачысценскую царкву ў вёсцы Шэбрын Брэсцкага раёна.

Храм быў пабудаваны ў стылі класіцызму ў 1793-98 гг. як уніяцкі. Царскі ўрад забраў яго і перадаў праваслаўным. У другой палове XX стагоддзя царкву практычна разбурылі і да канца 1980-х гадоў яна выкарыстоўвалася як калгасны свіран. Напачатку 1990-х гадоў храм як адзін з найстарэйшых каменных храмаў Брэсцкага раёна быў занесены ў рэспубліканскі спіс для рэстаўрацыі.

Рэстаўрацыйныя работы праводзіліся пад кіраўніцтвам архітэктара Уладзіміра Казакова. Сродкі на рэстаўрацыю выдаткоўваліся з дзяржбюджэту. Менавіта таму работы зацягнуліся. Адзінае, што было створана на сродкі ахвяравальнікаў, гэта – невялікі звон, адліты ў мінскай фірме «Выдатнае ліццё». Дапамагалі рэстаўратарам у працы мясцовыя жыхары. Брэсцкі райвыканкам ўручыў ганаровыя граматы кіраўніцтву «Брэстрэстаўрацыі».

21 верасня, у прастольнае свята Раства Багародзіцы, адбылося асвячэнне храма. З гэтага дня па выхадных і святах у царкву будзе прыязджаць святар з Брэста.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

## Трэці фестываль беларускіх фільмаў

У суботу ў Брэсце адкрыўся Трэці нацыянальны фестываль беларускіх фільмаў.

У конкурсную праграму фестывалю ўключаныя 43 ігравыя, дакументальныя, навукова-папулярныя, анімацыйныя, тэлевізійныя і відэафільмы, якія былі створаныя ў 1999-2000 гадах на кінастудыі «Беларусьфільм», у творчым аб'яднанні «Тэлефільм», «Беларускім відэацэнтры», у Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі Беларусі, на недзяржаўных кінастудыях «Відэафакт» і «Прымакі».

Журы фестывалю ўзначальвае старшыня саюза кінематаграфістаў Літвы, рэжысёр Гіціс Лукшас. У складзе журы — заслужаныя дзеячы мастацтваў Беларусі — кінарэжысёр-акцёр Юрый Марухін і кінадраматург Аляксей Дудараў, рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Рычард Смольскі і іншыя.

Галоўны прыз фестывалю — «Крыштальны бусел» — будзе ўручаны за лепшае ўвасабленне нацыянальнай тэмы. Прызы будуць уручаныя яшчэ ў 10 намінацыях. Акрамя таго, заснаваны спецыяльны прыз імя Віктара Турава — «За ўдачны дэбют у кіно». Цырымонія ўзнагароджання адбудзецца 26 верасня ў Брэсцкім тэатры драмы і музыкі. 17 снежня, у Дзень беларускага кіно, узнагароды за лепшыя матэрыялы аб фестывалі будуць уручаныя журналістам.

**БелаПАН**

 

ЭКАЛОГІЯ

# Торжество пешеходов

Жители большинства европейских городов не смогли воспользоваться вчера собственными автомобилями. В 33 странах проходила акция под лозунгом «Город без автомобиля». Ее цель – привлечь внимание общественности к проблеме загрязнения окружающей среды и добиться в городах снижения уровня шума.

Впервые такой день был проведен во Франции в 1998 году. Но постепенно все большее число стран Европы стали объявлять 22 сентября «днем без автомобиля». На работу в этот день можно отправиться пешком, на велосипедах, на общественном транспорте, либо другими способами вплоть до роликовых коньков. На автомобилях разрешено передвигаться только инвалидам, полиции, скорой медицинской помощи и другим неотложным службам.

В Португалии такая акция была впервые проведена в прошлом году. В семи городах страны велосипеды и общественный транспорт стали главным средством передвижения. В этом году в акции принимают участие шесть крупнейших португальских городов, включая Лиссабон.

Впервые проводит такое мероприятие Сербия. Закрыты для проезда автотранспорта многие улицы в центре югославской столицы. В городах Ниш, Нови сад, Суботица некоторые улицы были закрыты для движения полностью, часть – для проезда частного транспорта.

Городские власти Белграда постарались создать в этот день атмосферу праздника. В городе проходили многочисленные концерты. Кроме того, для любителей велосипедов, скейтов и роликов организованы специальные соревнования.

Но самым «демократичным мероприятием» сталапрогулка пешком по центральным улицам Белграда – от площади Республики до площади Славия, в которой приняли участие союзные, республиканские и городские политики, деятели науки, культуры и просто жители города.

Сербские власти посчитали, что акция будет способствовать не только оздоровлению окружающей среды, но и позволит провести замеры, на основе которых будет сделан вывод об уровне ежедневного загрязнения воздуха, а также шума, вызываемого транспортом.

В Италии в этой акции участвовали более 100 городов, включая Рим, Милан и Генуя. В общей сложности въезд автотранспорта запрещен на территории в 900 га.

В Дании водителям рекомендовано воздержаться от поездок на личных автомобилях на протяжении двух дней. «Зеленую улицу» в этот уик-энд получили немногочисленные владельцы автомобилей с электродвигателями и, разумеется, велосипедисты.

По данным датских экологических организаций, с 1990 г. выбросы углекислого газа в атмосферу Копенгагена сократились на 23%, в том числе благодаря использованию новых технологий, позволяющих преобразовывать их в тепло, а также постройке самого большого в мире количества ветряных двигателей. Предполагается, что к концу текущего десятилетия выбросы углекислого газа уменьшатся еще на 30-35%. Если это произойдет, к 2010 г. Копенгаген может стать городом с самым чистым воздухом в Европе. Ну а пока его жители стараются своими силами решать проблему загрязнения окружающей среды, пересаживаясь на велосипеды.



В «день без транспорта» кататься на роликовых коньках не менее интересно, чем на «Харлее»

# Биологическая гонка вооружения

## Бактерии учатся побеждать лекарства

**Александр ТОМАС, директор Лаборатории микробиологии в университете Рокфеллера, Нью-Йорк**

*В то время, когда в Европе в 1941 г. вспыхнула II мировая война, британский медицинский журнал «Ланцет» описал открытие исторической важности.*

«43-х летний пожилой полицейский из г. Оксфорда в Англии, – говорилось в статье, – был принят в больницу в начале октября 1940 г. с распространенной инфекцией стафилококка и стрептококка. Ему не помогло никакое местное дренажное лечение... К тому времени, когда ему назначили пенициллин в феврале 1941 г., инфекция уже распространилась почти по всему лицу, перешла на глазные впадины, легкие и правую руку (с остеомиелитом). С 12 по 17 февраля он получил 4,4 г пенициллина.

Это привело к поразительному улучшению. Инфекция исчезла, температура понизилась, количество белых кровяных телец упало с 20.000 в начале лечения до 8.400 в конце». «Лечение пришлось прекратить, – продолжает статья, – потому, что иссяк запас пенициллина. У пациента возник рецидив, и он умер от сокрушающей инфекции стафилококка».

В течение года пенициллин был признан чудотворным лекарством. Началась эра антибиотиков. Более чем через двадцать лет количество антибактериальных средств, добавленных к арсеналу антибиотиков, резко возросло. Названия знакомы всем: стрептомицин, хлорамфеникол, тетрациклин, эритромицин, метициллин, ванкомицин, рифампин, цефалоспорин, гентамицин. Все они – продукты микробов, живущих на земле, среди которых зародившаяся антиинфекционная промышленность нашла своих наиболее изобретательных союзников. Вместе эти сильно токсичные средства имели способность победить целый ряд бактерий, вызывающих заболевания у человека.

Важно осознать, как радикально изменили эти средства многовековую борьбу между человеком и вызывающими заболевания микробами. В той эре, в которой еще не существовало пенициллина, инфекционное заболевание было личным делом пациента: его иммунная система одна противостояла смертельным факторам нападающей бактерии, вызывающей заболевание у человека. Внедрение пенициллина и других мощных антибактериальных средств превратило сценарий болезни в своего рода войну. Нападающая бактерия сталкивалась не с хозяином, а с токсичными химикатами, арсеналом антибактериальных средств, которые могли убить захватчиков с помощью весьма избирательных механизмов, нацеленных на критические элементы в обмене веществ микробов, которые им необходимы для выживания.

Победа науки казалась столь очевидной, что это подтолкнуло хирурга генерала Соединенных Штатов к тому, чтобы объявить в 1970 г. о том, что «мы можем закрыть книги об инфекционных заболеваниях». К сожалению, последовавшие за этим события разрушили его оптимистичный прогноз.

В течение 5-6 лет с начала применения пенициллина в лечении заболеваний врачи начали докладывать о случаях, в которых инфекции, вызванные стафилококком, больше не поддавались лечению пенициллином. Число устойчивых к пенициллину стафилококков резко возросло. К началу 50-х гг. чудотворный пенициллин стал бесполезным против большинства отдельных групп стафилококков. Мир микробов отбивался от антибиотиков.

Чтобы преодолеть механизм развития устойчивости к пенициллину ученые переконструировали молекулу пенициллина, что привело к внедрению нового соединения – метициллин в 1957 г. Но уже в течение года стали появляться доклады об устойчивом к метициллину стафилококке (УМС). К середине 70-х гг. виды УМС захватили Европу, США, Австралию и Восточную Азию, неся в себе новый механизм устойчивости, нейтрализующей не только пенициллин и метициллин, но и все так называемые ?-*lactam* антибиотики – самая эффективная и большая группа антимикробных средств, разработанных фармацевтической промышленностью.

Еще более тревожным было появление видов микробов, устойчивых ко многим лекарственным препаратам. Первые отдельные группы УМС, обнаруженные в крови у инфицированных пациентов в Великобритании в 1960 г., уже были устойчивыми к пенициллину, стрептомицину, тетрациклину и часто также к эритромицину, т.е. они обладали свойством устойчивости ко всем основным разрядам антибиотиков, которые использовались в терапии до внедрения метициллина. Ранние победы эры антибиотиков превратились в разочарования для гонки вооружения: казалось, что за каждым новым антимикробным оружием рано или поздно следовало появление подходящего механизма бактериальной устойчивости.



Внутреннее устройство вредоносной бактерии

Больничные лаборатории микробиологии постоянно тестируют вызывающие заболевания микробы на чувствительность к 12-15 самым мощным антибиотикам. Бактерия, чувствительная к действию одного или более из этих антибиотиков, получает знак Ч, а устойчивой бактерии приписывают знак У. Отдельные группы бактерий, сохранившиеся с допенициллиновой эры, имели букву Ч, которая стояла рядом со всеми этими средствами.

С течением времени таблицы клинической микробиологии стали заполняться знаками МУ рядом с терапевтическими средствами, бывшими когда-то полезными – указывая на то, что они потеряли свою силу, и что эти виды бактерий являются **мультиустойчивыми** (устойчивы ко многим антибиотикам). Скопление этих знаков МУ на клинических таблицах по всему миру – зловещее напоминание о сокращающемся арсенале антибиотиков.

Изменение в «равновесии сил» между антибиотиками и оружием, произведенным бактериями, наиболее очевидно в случае со стафилококком – в настоящее время он является частой причиной возникновения инфекций в больницах. Вид бактерий, вызвавший, в конце концов, смерть британского офицера полиции в 1941 г., имел бы знак Ч, стоявший рядом не только с пенициллином, но и со всеми доступными сейчас антибиотиками. Глядя на профили клинической чувствительности видов стафилококков, наиболее часто найденных у пациентов, госпитализированных в 2000 г. в США, Европе и Латинской Америке, можно увидеть букву У, стоящую рядом с большинством доступных антибиотиков – лечение часто ограничивается единственным выживающим антибактериальным средством, которое называется ванкомицин.

Возможно ли, что в скором времени пациенты будут умирать не из-за того, что арсенал антибиотиков потерял свою силу против широко распространенных мультиустойчивых к лекарствам видов бактерий? Возможно ли то, что мы проигрываем антибактериальную гонку вооружения?

Это вопрос не из области научной фантастики – это вопрос реальности. Как бактерии вырабатывают устойчивость к антибиотикам? Каковы биологические резервуары, из которых они черпают свои механизмы устойчивости?

Существуют ли уроки, которые мы должны усвоить из эры первых антибиотиков для того, чтобы предотвратить потерю чудотворных лекарств, которые спасли так много жизней? Ответы на эти вопросы должны быть получены, если человечеству суждено продолжать отражение ударов заболеваний.



# Астрологический прогноз

## от Вероники Кудрявцевой на 24 – 30 сентября

***Астропрогноз отражает общий природный социально-психологический фон наподобие прогноза погоды. Индивидуальное прогнозирование строится на точных данных: учитываются день, месяц, год, место и время рождения человека.***



**ОВЕН.** Имеет смысл вовремя восстановить утраченные дружеские связи, возобновить совместные игры в футбол или банные традиции. Это может оказаться не только приятным, но и полезным в дальнейшей деятельности. А вот в пятницу стоит потрудиться в поте лица, поскольку самые кропотливые усилия дают конкретный результат, вознаграждаются премией. Вам есть с кем провести досуг и получить порцию вдохновения в субботу.



**ТЕЛЕЦ.** Кто-то переполнен искренними чувствами раскаяния и романтичным желанием восстановить личные взаимоотношения. Но стоит быть готовым к тому, что общение примет характер долговых обязательств друг перед другом или решения совместных хозяйственных задач обустройства быта. Где вы можете себя спокойно чувствовать в субботу – так это в работе или искусстве, которые приносят творческое умиротворение.



**БЛИЗНЕЦЫ.** Вы фундаментально пытаетесь решить мировые проблемы, все больше ставите «вечные вопросы» о высшем смысле своей деятельности. Однако придется спуститься на землю и попытаться решить элементарные вопросы, касающиеся устройства детей в надежное учреждение. Да и неплохо бы поправить свое здоровье, принять важные процедуры в пятницу. Ощутить себя поэтом, музыкантом или просто любимым попробуйте в субботу.



**РАК.** Кто-то в среду способен попасть в двусмысленное положение в любви, хотя уже раньше и проходил через нечто подобное. Вокруг вас витает воздух свободы в этот день. Тем не менее это не освобождает от некоторых обязательств перед любимыми, которые призовут к ответу в пятницу. В любви сейчас мало экспромта и достаточно расчета. Ближе к выходным можно удачно купить нужную вещь в дом.



**ЛЕВ.** Возвращаются прежние мужья или жены, идеализируя отношения и забывая про обиды. Но не стоит доверять порывам чувств, поскольку в пятницу обстоятельства заставят подумать о хлебе насущном. Дом нуждается в ремонте – тогда возьмитесь за это в пятницу. В общем-то, вы способны посвятить себя семье или партнеру на этой неделе, хорошо проведете время где-нибудь на вечеринке в субботу.



**ДЕВА.** Вы встречаете в среду старых сослуживцев и, вероятно, извлекаете из этого конкретную выгоду. Потребуется привести в порядок кое-какие бюрократические дела, заняться оформлением документов. В общем-то, ничего серьезного, но есть дела, которые требуют необходимого, будничного внимания. Лучше всего было бы отдохнуть с целью поправить здоровье, попить какие-нибудь снадобья или целебную водичку.



**ВЕСЫ.** Вы мечтаете о какой-то тайной встрече или о беседе с загадочным, может быть – засекреченным человеком в среду. Лучше на время скрыться, если есть необходимость – отлежаться в больнице или профилактории. Ничего существенного, скорее всего, не случится. Но в субботу захлестнут чувства благодарности к тем, кто вас любит, и ребенок способен внести сказку в жизнь. Не исключено, что муза посетит вашу обитель в выходные и оставит свои автографы.



**СКОРПИОН.** В ваш дом в среду опять приходит человек, который способен стать достойным дополнением, приятным партнером. Не исключено, что вам придется решать какую-то рабочую или серьезную бытовую проблему в пятницу. Спокойное время в кругу родных или родственников в субботу порадует ощущением заботы и умиротворения. Можно заняться утеплением помещений, подготовкой к зиме, поставить счетчики или сигнализацию.



**СТРЕЛЕЦ.** Вас опять отправят в ту же командировку или в знакомый офис обивать пороги для решения чисто производственных задач. Похоже, что вы будете действовать исключительно из корыстных побуждений – только бы укрепить свое профессиональное положение и спасти репутацию. В субботу намечается наплыв гостей или же вас будут тащить к себе в дом с обязательным отмечанием какого-то события.



**КОЗЕРОГ.** Вам опять кто-то готов сделать в среду творческое предложение, вернуть к какому-то проекту. Обратитесь в этот день к тем, кто что-то вам должен или обещал. Пятница – вполне удачный технический день всевозможных ремонтов, починок, самых насущных приобретений. На едином дыхании вы готовы свернуть горы и переплыть реки, решая важные вопросы или снимая профессиональные барьеры в субботу.



**ВОДОЛЕЙ.** Какая-то проблема в среду не дает вам покоя, человек противоположного пола смущает и заставляет порой делать глупости. И это прекрасно, хотя и опасно при данных обстоятельствах. Вы способны доказать свой высокий профессионализм в пятницу, когда могут привлечь к кропотливой, но благодарной работе. И все-таки вы отчаянный романтик, более всего в субботу, когда появится творческий или игривый партнер.



**РЫБЫ.** Вы все больше возвращаетесь к мысли, что недооценили какую-то любовь. Может быть, даже вернетесь к ней, может – напишете или расскажете об этом роман. Дела могут забросить вас далеко в пятницу, но ведь есть в запасе выходные для вдохновения. У супруга здоровье поправляется, обозначается конкретная помощь или прибыль в работе. В субботу желательно сделать все возможное, чтобы снять стресс у воды, на рыбалке, в бассейне.

Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1764 Нумар падпісаны ў друк 23/09/2001 (15:00) Наклад – 9.470